Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 7. Вільня, 14 красавіка 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Справа школьнае палітыкі.

Ня так даўно віленскі куратар выдаў цыркуляр да ведама настаўніцтва прыватных беларускіх школаў. У гэтым цыркуляры папераджаюцца некаторыя беларускія настаўнікі, што з наступнага году яны будуць звольнены з браку кваліфікацыяў і палітычнай „неблагонадежности“. Як і трэба было чакаць, гэты цыркуляр выклікаў цэлую буру сярод беларускае інтэлігэнцыі і набраў характару грамадзкага.

— Вось ізноў гвалт над беларускаю школаю!

Так пісала беларуская прэса розных кірункаў, не выключаючы нават і газэты Паўлюкевіча. Але цікава: ня толькі беларуская, але і польская лібэральная прэса, якая была незадаволена гэтым прыкрым фактам, не паставіла кропкі над «і», і не сказала таго самага галоўнага, што ўжо насьпела і што трэба зрабіць у справе школьнае палітыкі, каб падобныя факты больш ня мелі месца і не дразьнілі нашага нацыянальнага пачуцьця і нашых папсованых нэрваў.

Ненармальнасьць палажэньня, як была, так і засталася і ўся газэтная кампанія так і павісла ў паветры, не выявіўшы тае думкі, якая дала-б выхад грамадзянству, якая злучыла-б, з'арганізавала-б грамадзкія сілы і змусіла-б уладу ступіць на рашучы шаг у справе школьнае палітыкі на нашых землях.

Сягоньня мы маем новы цыркуляр віленскага куратара, цыркуляр з правіламі, як трэба адчыняць **прыватныя пачатковыя школы** ў наступным годзе.

Адным словам, старая сыстэма, сыстэма прыватнасьці школаў гэтак званых „нацыянальных меншасьцяў“ застаецца, як сыстэма школьнае палітыкі. І гэта змушае нас выступіць і сказаць: Так, пане куратар! Прыватная школа, як ідэя — добрая ідэя, але не для ўсіх і асабліва не для нашае прыкрае сучаснасьці.

Прыватная школа можа жыць у горадзе і пры тым у горадзе багатым, дзе ёсьць пэўныя групы матар'яльна забясьпечанага жыхарства, якія могуць утрымліваць школу на свой уласны кошт.

Прыватная школа, нарэшце, можа істнаваць, як дадатак да школы дзяржаўнае, калі дзяржава — яе бюджэт, — не пазваляець задавольніць усіх культурных патрэбаў жыхарства.

Але ня можа істнаваць прыватная школа, як сыстэма школьнае палітыкі, асабліва цяпер, пры нашых варунках хворага грамадзкага жыцьця, затручанага чадам ненавісьці і недавер'я. Для нас дык зусім зразумела, што нават у Вільні, ня кажучы ўжо аб вёсцы, — дзе ідэя прыватнае школы зьяўляецца абсурдам з браку грамадзкае сьвядо-

масьці і беднасьці сялян, — прыватная беларуская школа, як сыстэма, немагчыма без таго, каб яна не папала ў рукі спэкулянтаў і палітычных махляроў.

Да таго часу, покуль беларускія гімназіі адтрымліваюць субсыдыі з розных палітычных крыніцаў,—яны залежаць цалком ад іх. Якая-б наогул прыватная беларуская школа ні была адчынена — яна адразу ходам падзеяў пападаець у рукі тых, хто зьяўляецца яе матар'яльным апякуном, бо мясцовае беларускае жыхарства ня можа яе утрымаць.

Ставім тутака кропкі над «і». Ніякія цыркуляры, ніякія візытатары і драконскія законы ня могуць аздаравіць прыватнае беларускае школы. Вось дзе зло і корань пытаньня! І прад польскімі школьнымі ўладамі ёсьць цяпер два выхады. Першы — зачыніць усе беларускія прыватныя школы. На гэты шлях асьцярожна вядзець цыркуляр пана куратара і Радашкавіцкая гімназія аб гэтым ужо папярэджана.

І ёсьць другі шлях, шлях запраўднае школьнае палітыкі, шлях здаровае дзяржаўнае думкі — пачаць арганізацыю дзяржаўнага беларускага школьніцтва і асьветы наогул.

Пачынаем ад Унівэрсытэту ў Вільні. Сягоньня ён для беларусаў — няпрыступная крэпасьць, а сьцены яго мусяць быць шырока адчынены для ўсіх народаў нашага краю. Усе сярэднія беларускія школы, — іх ўсяго толькі чатыры, — мусяць быць дзяржаўнымі школамі і мусіць быць падрыхтованы грунт для адчыненьня новых школаў сельска-гаспадарчага тыпу.

Нарэшце, мусіць быць пачата арганізацыя дзяржаўных пачатковых беларускіх школаў, пачата не шляхам нейкіх недарэчных дэклярацыяў і індывідуальнага апросу, — які можа выглядаць, пры нашых варунках жыцьця, як нейкае палітыканства, ашуканства і спэкуляцыя на інстынктах «сьвядомасьці» ці «несьвядомасьці», — а на падставе праўдзівых патрэбаў здаровае дзяржаўнае школьнае палітыкі, якое да гэтага часу ня было. „Прыватнасьць“, розныя „канцэсіі“, розным „групам“ і „асобам“ мусіць быць рашуча адкінута, бо школа — не гандаль, і справа яе мусіць быць вырашана ў дзяржаўным маштабе.

* * *

Мілая краска жыцьця веснавога,
Хутка, нябачна ты мне адцьвіла,
Сэрца напоўніла жалем-трывогаю,
Мала ты ўцехай мне ў жыцьці была.

Рэдка ўсьмяхалася доля гаротная,
Рэдка жыцьцё весяліла сабой,
Рэдка радзілася думка свабодная,
Хворае сэрца тужыла па ёй.

Кінь сумаваць, маё сэрца забітае,
Месца нядай ты заўсёднай жальбе,
Глянь — во зямелька, туманам спавітая,
Новаю сілай напоіць цябе.

Сонца прагляне і ўстане вясёлая
К новаму лепшаму жыцьцю зямля,
Краскамі нівы усыпле ўсе голыя
Сьветлая мілая госьцьця-вясна.

# Успаміны з Пэрсіі.

(*Гл. № 6 „Б.Д.“*).

Лёгкі ветрык ледзь-ледзь моршчыў люстраны твар вады. Хутка і востраў прапаў у сівой імгле і вокал, куды сягнуць магло вока, ня відаць было нічога, апрача неба і вады.

Я першы раз быў на моры, першы раз ня бачыў зямлі. І мушу прызнацца, што гэная адсутнасьць зямлі зрабіла на мяне дзіўнае ўражаньне.

Гледзячы на водныя абшары, якім, здавалася, няма ні канца ні меры, пачуў я сябе, разам з гэным параходам, і з гэнай жменькай людзей на ім, нейкім малым, забытым і пакінутым.

Страціўшы зямлю з вачэй, я шукаў яе ў думках сваіх і не знаходзіў не і некая туга запаўзала ў душу і шчаміла сэрца, і гэтак шкода было і шэрых гор і берагоў, пакінутых нядаўна.

Але хутка сыгнальны званок, склікаючы пасажыраў на абед, парваў нітку думак, і я пайшоў у каюткампанію, ў якой ужо сабраліся за сталом усе пасажыры, купіўшыя білет з харчамі.

Паміж імі было найбольш афіцэраў, так сама, як і я, ехаўшых у свае аддзелы, было некалькі купцоў-армян і некалькі жанчын у вопратцы сёстраў міласэрдзя.

Хутка ўсе пазнаёміліся, паміж сабою завязалася гутарка аб тым аб сім, але неяк ня ладзілася, бо спакойнае дагэтуль мора пачало шумець.

Параход наш, які да гэтага часу ішоў роўна і спакойна, ледзь-ледзь хістаючыся, пачаў цяперака, як п'яны, хіляцца то ў адзін бок, то ў другі. Талеркі і шклянкі запоўзалі па стале і трэба было раз за разам хапаць іх, і трымаць, каб не ўцяклі на падлогу.

Толькі-ж ня радуюць сэрца трывожнага
Кветкі чароўнай і мілай вясны,
Далі задумныя краю разложнага,
Шчасьця былога прайшоўшыя дні.

Сумна праходзіць жыцьцё адзінокае,
Век я ня бачу вясёлага дня.
Дзе-ж ты падзелася, радасьць далёкая?
Можа нясеш, ты мне, госьцьця-вясна?

Можа павееш ты радасьцяй-воляю,
Можа прагоніш заўсёдны мой сум?
Хутка прыдзі: я — забіты нядоляю...
Можа вясёлых навееш мне дум!

*Н. Жальба.*

## Наваградзкае жыцьцё.

Даўно я ня быў у Наваградку, мусі гадоў з 20. Тады ён быў толькі павятовым горадам і ня сьніў мусі аб той неспадзеўцы, якая яго спаткала.

Цяпер ён зусім перамяніў свой твар: зрабіўся нейкім важным, прылізаным, адным словам, мае прэтэнсіі на запраўдны ваяводзкі горад.

Толькі падчас кірмашу, ці рынку ён узноў прыбіраецца ў сваю даўнейшую, прадваенную вопратку. Кажухі і сярмягі запаўняюць рынак, крамкі і ўсе вуліцы гораду, усюды чутна беларуская мова. Сакочуць бабы, скрыпяць вазы, іржуць коні, ляцяць лаянка мужыкоў, паміж каторымі шмыргаюць мясцовыя жыдкі-гандляры, скупляючы гаспадарскае дабро.

Адно, чаго ня бачыў я цяпер у Наваградку — гэта прыгожых нацыянальных вопратак, распаўсюджаных перад вайною ў Шчорсах і іх аколіцах, якімі выдзяляліся тамтэйшыя дзяўчаты і дзяцюкі ад рэшты сялянства. Недзе прапалі цяпер фарсістыя шчорсаўскія кажухі з адкладнымі шырокімі каўнерамі і з нескос прарэзанымі кішанямі, ня відаць дзяўчат-красуляў, у іх прыгожых, спэцыяльнага крою, пашытых да стану, каптаніках, з-пад каторых выглядалі белыя, вышываныя кашулі з адкладнымі каўнерыкамі. Ці-ж бы загранічная мода гэтак атуманіла шчарсуноў, што дзеля яе адмовіліся ад свае народнае прыгожае вопраткі, перамяніўшы яе на крамны тандэтны шык? Калі так, то шкада і сорам вам, шчарсуны!

Адно што і ў гэныя дні адрозьнівае цяперашні Наваградак ад даўнейшага—гэта тое, што ў ім спатыкаеш цяпер шмат сялян з газэтаю ў руках і то з газэтаю беларускаю, якая да вайны мала мела доступу да вёскі. Цяпер вёска чытае і шукае газэты свае — беларускае.

У рынковыя дні гаспадар газэтнага кіоску, што стаіць на рынку, робіць на іх зусім добры інтэрас.

Зьвяртаюць таксама ўвагу ў цяперашнім Наваградку і надпісы, абвяшчаючыя істнаваньне розных установаў, якіх да вайны ня было і ўспаміну. Да ліку іх належыць прыватная Беларуская Гімназія.

Як чалавеку, пішучаму ў беларускую газэту, не заглянуць да яе? Вось я і зайшоў паглядзець, як жыве, як гадуецца моладзь наша, гэная надзея і будучыя правадыры нашага сялянства?

Гімназія, не даючы ніякіх правоў, вядзе сваю працу ў вельмі цяжкіх варунках. Памешканьне больш чым беднае, вучні яе, за малым выняткам, дзеці нашых сялян - хлебаробаў, таксама бедныя. Гімназія цагэтуль, паводлуг расказу пана Дырэктара, трымалася з аплаты за навуку, якая была устаноўлена: ў I-ай клясе 10 зл. за год, II-ай кл. — 90 зл., III-ай—100, IV-ай—120, V-ай—140, VI-ай—170, VII-ай 200 і ў VIII клясе 220 зл. за год.

Лічачы больш за паўтары сотні вучняў, Гімназія не магла ўтрымацца з аднэй толькі аплаты за навуку, тым болей, што шмат бацькоў не магло заплаціць поўнай сумы, дзеля свае беднасьці, і, каб ня выкінуць

---

Калі прынясьлі зупу, ня ведама было, што з ёй і рабіць, і як яе есьці. Нальеш у талерку, калі глядзіш, параход пахіліўся, і ўся зупа выплюснула на стол. Гэтак, мала хто і еў яе. Падалі рыбу і мяса. З гэным ладзіць было лягчэй, але вось новае гора: ад хістаньня пачало неяк нудзіць. Але я рабіў добрую міну і еў. Елі таксама і іншыя, хаця па твары сваіх таварышоў падарожы, я бачыў, што з імі таксама робіцца нешта нядобрае.

Першая падняла спалох нейкая пані. Яна раптам зьбялела, як папера, ўстала ад стала і, прылажыўшы хустачку да губоў, уцякла з кают-кампаніі. Хутка за яе прыкладам пайшла і яе суседка, далей нейкі афіцэр.

Капітан параходу, гледзячы на гэных уцекачоў, толькі ўсьміхаўся пад вусамі.

— Ужо захварэлі,—неяк з пагардай працадзіў ён праз зубы і павёў плячыма.

І я таксама першы раз еду на параходзе, а мне вось нічагусенькі,—пахваліўся нейкі зусім маладзенькі яшчэ афіцэрык.

Але ледзь ён дакончыў сваю хвальбу, калі раптам скочыў ад стала і ўцёк, а сьледам за ім нёсься сьмех капітана.

Да канца абеду засталося за сталом, з 20 сеўшых, толькі шасьцёх пасажыраў, паміж якімі быў і я, хаця прызнацца, нудзіла мяне штораз болей, але на той час я вытрымаў і перамог хваробу.

Выйшаўшы на палубу пасьля абеду, я не пазнаў гэнага спакойнага і ціхага яшчэ прад гадзінай мора. Яно цяперака быццам кіпела са дна. Вялізарныя хвалі атулілі параход з усіх бакоў і, хапіўшы яго на свае магутныя, белыя ад пены, плечы, то падымалі яго ўгору, то раптам расступаліся і кідалі ў нейкую прорву бяз дна, дзе, здалося, ня было яму ратунку. Але ён не падаваўся: соп, кідаючы праз коміны грамады іскраў, гудзеў сваімі машынамі, трашчаў увесь і скры-

на вуліцу іншы раз здольнага до навукі хлапца, Гімназія мусіла карыстацца дапамогамі з розных крыніцаў. Дапамогі гэныя аднак не маглі пакрыць усіх выдаткаў і бязупынны недахоп грошай давёў да таго, што за 20 дзён чэрвеня, за ўвесь ліпень і жнівень настаўніцкі пэрсонал застаўся бяз пэнсіі і проста галадаў.

Навука ў беларускай мове вядзецца ўва ўсіх клясах, за выняткам 7-ай і 8-ай, у якіх выкладовай мовай зьяўляецца мова расейская, як перажытак бышай расейскай гімназіі, з якой паўстала цяперашняя беларуская.

Дзеля істнаваньня гэных дзьвюх клясаў відаць яшчэ ў гімназіі сьляды расейскага налёту, які, здаецца нам, у хуткім часе прападзе бясьсьледна разам з пераходам і дзьвюх апошніх клясаў да навучаньня ў беларускай мове, тым болей, што настаўніцкі пэрсонал, за малымі выняткамі, ўсё настаўнікі бышай расейскай школы, пры даткнуцьці з масай беларускай сялянскай моладзі, якая думае і чуе пабеларуску, ахоплены нацыянальным пачуцьцём сыноў беларускае вёскі ўсё лепш і лепш наладжвае новае для яго навучаньне ў беларускай мове і пачынае жыць адным з гэнай моладзьдзю нацыянальным жыцьцём.

Што гэта так—вось факты.

Прада мною журнал „Наша Думка“, напісаны вучнямі гімназіі. Ў ім моладзь наша, у творах сваіх іншы раз няўдалых, а часьцей з ад‘знакамі бязумоўнага таленту, піша аб шчасьці навукі і аб сваім вясковым жыцьці.

Паміж літараў, выпісаных іншы раз яшчэ нявыробленай рукою будучага поэта, паміж радкоў прозы, быць можа будучага знамянітага беларускага пісьменьніка, выглядае нацыянальная душа беларускага народу, яго гора і радасьці, яго доля-нядоля.

Я бачыў маладых супрацоўнікаў „Нашае Думкі“. Яны чыталі мне творы свае.

І тады толькі я зразумеў усё тое, чаго іншы раз не патрапілі выказаць у сваіх творах беларускія дзеткі.

Так, ня гледзячы на ўсе перашкоды, на ўсе цяжкія акалічнасьці, там у гэнай прыватнай Бела-Гімназіі без правоў гадуецца нацыянальная душа беларускага дзіцяці. А працай гэнай кіруе настаўніцкі пэрсонал. Апрача газэты, пад яго кіраўніцтвам, рыхтуюцца і ставяцца беларускія спэктаклі, на якія, як мне казалі, зьбіраецца сялянства ня толькі з блізкіх вёсак, але і з адлегласьці некалькіх дзясяткоў вярстоў.

І гэная праца не павінна спыняцца і гімназія павінна істнаваць.

Апошнімі часамі навагрудзкае ваяводзтва прышло з матар‘яльнай дапамогай гімназіі. Паводлуг нашых вестак, дапамога гэта будзе сталай. Хутка, бо здаецца 8. IV с. г. дзякі гэнай дапамозе пры гімназіі меў быць адчынены інтэрнат для 50 вучняў.

Бурсакі будуць плаціць толькі за яду—30 зл. у месяц грашыма альбо, заместа грошай, прадуктамі на гэную суму г. знача: 1½ пуда мукі жытняй, 4 фунты сала, 10 фунтаў круп; 10 ф. мукі пшанічнай і 2 пуды бульбы.

Гімназія, адным словам, рухаецца і трэба думаць, што пры дапамозе бацькоў і ўраду не прападзе і, здабыўшы сабе зусім заслужаную пашану, здабудзе таксама і правы публічных школаў, якія адчыняюць бязупынны доступ да вышэйшай адукацыі.

*Дзядзька Працук.*

---

пеў пад ударамі хваляў, пахіляўся моцна на ўсе бакі, то вострым носам урэзваўся ў вадзяныя горы, вырываўшыся з іх абняцьця, выплываў з прорваў бязьдонных на гару і шоў, шоў усьцяж уперад, паслушны волі жменькі людзей.

На палубе, апрача матросаў і некалькіх пэрсаў, я не знайшоў нікога. Матросы бегалі туды і сюды, выпаўняючы каманду капітана, а нешчасьлівыя пэрсы, ўхапіўшыся рукамі за поручні бартоў і выцягнуўшы шыі, ікалі неміласэрна і стагналі, захварэўшы марскою хваробаю.

Мне хацелася далей паглядзець на разгуляўшуюся прыроду, але першая набегшая хваля спыніла маю ахвоту.

Разьбіўшыся на тысячу кавалкаў аб цела параходу, яна хляснула пенай і ручаякі вады на палубу. Абліты вадою, закіданы пенай, я не чакаў ужо другой хвалі і па сходах хутчэй пабег у калідор, адтуль у сваю каюту.

Там я знайшоў свайго беднага Карапэта, якога неміласэрна мучыла марская хвароба. Ён сядзеў на маім ложку, ікаў бязустанку і стагнаў.

— Ой, ваше благородые, памірат буду, — жаласьліва скардзіўся ён...

Па падлозе былі раскіданы мае рэчы: яны езьдзілі з аднаго канца ў другі ў тахту хістаньня параходу.

— Дэсат раз клал іх на мэста, ваше бла-дые, нычэво нэ памагает,--сумна дакладваў мне Карапэт.

Ён хацеў яшчэ сказаць мне нешта, але ікнуў толькі і, пачуўшы новы прыступ ванітаў, выбег з каюты. Тымчасам пачало цямнець і зараз настала ноч.

Сабраўшы рэчы і прымацаваўшы іх раменямі да паліцы, я сядзеў нейкі час, слухаючы шуму мора, ажно лёг на ложка і заснуў.

## Патрэбен пералом.

„Орыентацыя“ на Ўсход раней ці пазьней збанкрутуець. Тыя, каторым толькі сьвеціць „lux ex oriente“ (сьвятло з усходу) не разумеюць, ці праўдзівей ня хочуць зразумець, што ўсходняе сьвятло вельмі пазорнае, што за ім хаваецца цемра,—цемра культурная і палітычная. Шмат хто з іх гэта разумее, але, выкінутыя за борт беларускага незалежніцкага жыцьця, зрабіўшы вялікія абавязаньні з таго боку, ідуць па выбранай дарозе, не стараючыся нават падумаць аб тым, што прывясуць у сваіх далейшых рэзультатах іх імкненьні, іх палітычная работа. Іх ня страшыць прыклад Грузіі, яны ў сваём засьляпленьні жадаюць і годзяцца на тое, каб і тут, як там, панаваў які „віцэ-кароль“ Крыніцкі. Іх палітычная праца—гэта ня творчая праца. Бязустаннай нэгацыяй, бязустаннай дэмагогіяй нічога творчага ня збудуеш. Трэба верыць, што гісторыя ўсіх тых, каторыя ў сваёй працы імкнуцца да вышэйсказанага, а праца каторых гэта, перш за ўсё, дэмагогія і нэгацыя, што гісторыя іх асудзіць, як тых, каторыя мо' й бяз віны, можа і з найлепшымі думкамі, аднак устрымалі разьвіцьцё нашага краю, сталі запорай на дарозе паглыбленьня і ажыцьцяўленьня ідэяў незалежнасьці.

Мы верым у сужыцьцё й супрацоўніцтва народаў польскага, беларускага і украінскага. Мы верым, што гэтыя народы маюць перад сабой будучыну, яны стануць запорай маскоўскаму імпэрыялізму бяз розьніцы, ці то будзе белы, ці чырвоны імпэрыялізм. Мы перш за ўсё павінны баяцца Ўсходу, як сыпоніму няволі духовай і палітычнай і ўсе сілы напружыць у змаганьнях з імкненьнямі ўсходніх уладароў. У гэтым змаганьні мы будзем мець усіх тых, каму дарагі ідэалы незалежнасьці, усіх тых, каторыя ня хочуць астацца парабкамі чырвоных камісараў.

І калі мы, беларусы, ўсьведамляем, што нам грозіць, калі мы шукаем супрацоўніцтва з братнімі дэмакратыямі, калі мы хочам будаваць сваю будучыну, абапёртую імення на вялікай фэдэрацыі народаў, дык мы часта спатыкаем незразуменьне з боку тых, каторыя нас перш за ўсё разумець павінны.

Польшча не зьяўляецца дзяржавай адналіта̂й так з боку гаспадарскага, як і па складу свайго насяленьня. Таму сыстэма цэнтралістычная раней ці пазьней мусіць панясьці вялікую няўдачу, яна давяла да таго, што іншыя народы баронячыся блёкаваліся, а зыйшоўшы з дарогі супрацоўніцтва адходзілі штораз далей з вялікай шкодай, як для сябе, так і для польскай дзяржаўнасьці. Што сыстэма дзяржаўнага цэнтралізму зьўляецца шкоднай, мы бачым, як прыклад, Францыю: французскі цэнтралізм спаткаў вялікі апор у Эльзас-Лётарынгіі, якая дамагаецца шырокай аўтаноміі й раней ці пазьней яе адтрымаець.

Праграма баявога нацыяналізму Грабскіх і $K^0$, каторая казала і кажа, што ўсё, што ня йдзець з эндэцыяй, павінна быць прасьледаваным такім ці іншым спосабам, што кожны беларускі, украінскі ці літоўскі інтэлігэнт, бяз розьніцы палітычных перакананьняў, зьяўляецца нелёяльным грамадзянінам дзяржавы, гэтая праграма дала сумныя рэзультаты.

Дайшло да таго, што кожны паліцыянт, кожны польскі ўрадовец зьяўляецца сынонімам усяго таго, гора, каторае спадаець на беларускую вёску. Затрацілася эмоцыянальная сувязь паміж беларускай вёскай і ўладамі, каторыя зьўляюцца прадстаўнікамі дзяржавы,

І занік гэтай духовай сувязі, пачуцьця салідарызму паміж беларускім селянінам і прадстаўніком улады паглыбляецца. Сыстэма цэнтралізму, стасаваная ўсімі габінэтамі, ваяводамі і старастамі, далей сыстэма палянізацыі не магла выклікаць і ўзмацніць духовай сувязі паміж беларускай масай і Рэспублікаю.

Польская дэмакратыя, калі дабро дзяржавы ля-

---

Разбудзіў мяне сыгнал вячэры, я зноў пацягнуўся ў кают-кампанію, але там сабралася толькі тых самых шэсьць чалавек, што вытрымалі да канца абеду.

Капітан і два афіцэры параходу зараз-жа приступілі да яды, а апошнім трэм, у тым ліку і мне,—было не да яды. Нуда ў мяне не праходзіла ні на хвіліну і, выпіўшы толькі шклянку гарбаты з цытрынай, я зноў пайшоў у каюту і лёг. Гэтак, як я прыкмеціў, нуда зьмяншаецца і пераносіць яе лягчэй.

На другі дзень пагода перамянілася. Вецер уціх амаль зусім, але расхістанае праз ноч мора яшчэ кіпела і бурліла, хаця хвалі і не дасягалі гэткай вышыні, як учора, і параход наш лёгка спраўляўся з імі і, раскідаючы іх направа і налева, зноў пэўна і сьмела пракладаў сабе дарогу.

З неба глядзела сонца і жарка грэла. І ў косах яго гэныя, страшныя ўчора, сівыя хвалі, цяпер ня пужалі нікога і, пераліваючыся рознымі колерамі ў праменьнях сонца, прыемна пясьцілі вока сваею прыгожасьцю.

А гадзіне дзесятай далёка, быццам на краі кругазору, прад намі забялела быццам хмарка нейкая.

— Гэта зямля,—растлумачыў мне матрос.

І запраўды праз нейкі час хмарка гэная пачала вырысоўвацца ясьней, ужо можна было распазнаць у ёй асобныя грамады далёкіх гораў і, пачакаўшы трошкі, пад горамі зазелянела устужка лясоў і хутка зарысаваўся бераг з яго дамамі і садамі.

Гэта было Энзэлі. Ад яго плыла да параходу чайка з лоцманам, які і ўвёў параход у Энзэлійскі порт.

**Дзядзька Пранук.**

(*Працяг будзе*)

жыць ёй на сэрцы, павінна зрабіць рэвізію адносінаў да нас. Бо мімаходныя ўплывы рознага роду польскіх арганізацыяў з палянізацыйнымі тэндэнцыямі нятрывалыя, яны ня зьвязаны арганічна з псыхолёгічным устасункаваньнем да дзяржавы.

Народ беларускі, яго сыны, хочуць мець уплыў на свой лёс.

Даволі ўспомніць, што да нядаўна прызнацца да беларускасьці вымагала цывільнай адвагі.

Незадаваленьне вёскі, вычуваючай голад зямлі з аграрнай палітыкі, недапушчэньне беларусаў да ўрадаў і шмат іншых прычын зрабілі тое, што затрачваецца сувязь народу з дзяржавай, гэтым і можам тлумачыць уплывы радыкальна-дэмагогічных кірункаў, як напр. быўшае „Грамады“.

Але зьмяняюцца часы й людзі. Сёньня мы жадаем шчырасьці ў адносінах да нас, жадаем таго, што нам слушна належыцца, як напр. школа і г. д., жадаем зарваньня з поглядам, што кожны беларус і беларускі інтэлігэнт зьяўляецца ворагам польскае дзяржаўнасьці.

І калі наступяць рэформы, дзяржава будзе мець за сабой неаднамільённую масу, каторая зьвяжаць свой дабрабыт з дабром дзяржавы. Сіла дзяржавы будзе залежаць ад духовай сувязі грамадзяніна з дзяржавай.

Настаў час калі, як з аднаго, так і з другога боку трэба пакінуць нерэальныя фразы, а заняцца рэальнаю працаю—рэформамі.

*Студэнт.*

# СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

### Ня тая залатоўка.

Жыў у мястэчку чыноўнік, вялікі хабарнік. Бывала гаварыць нават ня хоча з чалавекам, калі той ня дасьць яму залатоўкі. Ён за быле што чапляўся да людзей, і даіў з іх грошы, як баба малако з дойнай каровы.

Ажно здарылася з ім няшчасьце: пайшоў купацца, наплыў на глыбіню і пачаў тануць.

— Чалавек тоне, ратуйце, лодку давайце! — крычалі людзі.

Якраз у той час праходзіў блізка стары Янкель, які не адну сваю залатоўку з болем у сэрцы мусіў апусьціць у заграбушчую лапу хабарніка.

— Ша, ша! чаго крычаць?—пацікавіўся Янкель.

— Ды як ня крычаць, чалавек тоне,—азваліся людзі.

— Які чалавек?

— Ды наш хабарнік.

— Дык навошта гэты крык, навошта лодка? — адказаў Янкель: — пакажэце яму хутчэй залатоўку, дык ён сам выплывець.

Заварушыліся людзі, давай па кішанёх шукаць залатоўкі, але не знайшлі, бо кішані іх былі пустыя.

— Трэба ў яго пашукаць, — азваўся нейкі дагадлівы. І апусьціўшы руку у порткі хабарніка, пакінутыя на беразе, выцягнуў з яго кішані цэлую жменю грошай.

— Гэй, хабарнік, хадзі сюды, маеш табе залатоўку!— пачалі клікаць яго людзі.

Але хабарнік ня выплываў.

— На гэныя залатоўкі ня выплываець, — адказаў усьміхаючыся Янкель, бо ласы ён толькі на залатоўкі з чужой кішані.

І праўду казаў Янкель: ня выплыў хабарнік — пайшоў на дно.

Д. П.

### Прад вясельлем.

Ў садзе дзеўка маладая
Яблычкі зьбірала.
Пасватайце, людцы, хлапца,
Каб сэрца кахала.

Каб гарэлкі ня піў,
Табакі ня нюхаў,
Чужых жонак ня любіў,
А свае дык слухаў.

### Пасьля вясельля.

І купіла-ж я бяду
Дый за свае-ж грошы—
І вясельле каштавала,
І муж нехарошы.

І стары і малы,
І гультаяваты.
Што нядзеля — у карчме
Ня пільнуе хаты.

# Паведамленьне Дзяржаўнага Зямельнага Банку.

Некаторыя прыватныя канторы паведамілі старастаў і войтаў, што яны памагаюць і прысьпешваюць адтрымліваньне доўгасрочных пазыкаў у Дзяржаўным Зямельным Банку і што яны пры сваім пасярэдніцтве вымагаюць двуразовага прыезду ў Варшаву. За сваё пасярэдніцтва гэтыя канторы бяруць вялікія аплаты, якія дасягаюць колькіх дзесяткоў і нават колькі сот злотых за невялікую фатыгу з свайго боку. Дзяржаўны Зямельны Банк, стараючыся не дапусьціць да вызысківаньня гэтага роду пасярэднікаў, падае да ведама, што не ўпаважняў ніякіх кантораў да пасярэдніцтва ў пазычковых справах, а зьвяртаньне землярабаў да такіх кантораў, як наагул да ўсялякіх бяз вынятку кантораў ці пасярэднікаў ёсьць бязмэтнае і ня прыносіць абяцанага рэзультату, павінна яно быць пакіненае, асабліва таму, што Зямельны Банк стараецца сам даваць адказы на заявы аб пазыках поштаю, дзеля чаго прыезд у Варшаву для злажэньня заявы на пазыку і дакумэнтаў, як і адтрыманьня грошай з прызнанай пазыкі, зьяўляецца непатрэбным.

Па ўсялякія выясьненьні, як і палёгкі пры адтрыманьні доўгасрочнае пазыкі на парцэляцыю ці на палепшаньне гаспадаркі (інвэстыцыйная пазыка), Дзяржаўны Зямельны Банк раіць зьвяртацца да зямельных грамадзкіх арганізацыяў, з каторымі Банк вядзе перагаворы, дзеля выкарыстаньня гэтых арганізацыяў для пазыковых справаў.

Аб рэзультатах перагавораў Банк паведаміць. Адначасна Дзяржаўны Зямельны Банк звароччваецца з просьбай да землярабаў, каб яны ў сваім інтарэсе перашкаджалі бязужытковаму й каштоўнаму пасярэдніцтву, з гэтай мэтаю каб паведамлялі аб кожнай прапазыцыі, зробленай пасярэднікамі, з паданьнем прозьвішча і адрэсу такой асобы ці канторы, запісаньнем усялякіх важнейшых абставінаў, датычачых падобных фактаў.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Ці можна не дапусьціць да сцаленьня грунтоў?

Сцаленьне грунтоў мае вялікае дзяржаўнае значэньне, бо яно зьвязана з пытаньнем дабрабыту насяленьня, што напэўна ўплывае на палажэньне дзяржавы. Грамадзкі інтэрас вымагае правядзеньня комасацыі дзеля падняцьця земляробскае культуры краю, якая ўплывае рашуча на вышэйшы ровень жыцьця працоўных масаў.

Калі дзяржава дасюль не рашылася на прымусовую ліквідацыю цераспалосіцы, хоць-бы сабе й па прычыне патрэбнае колькасьці кваліфікованых тэхнікаў-комасатараў, дык усё такі ня можна не падтрымліваць прыватнае ініцыятывы зацікаўленых у сцаляньні беспасрэдна асобаў. Вось-жа і закон 31 ліпня 1923 году, зновэлізованы 12 красавіка 1926 году, распасьцірае апеку над прыватнаю ініцыятываю. Ён пастанаўляе, што кампанія асобаў, або нават і адна асоба, якая мае 25 гэктараў зямлі ў цераспалосіцы, можа патрэбаваць сцаленьня грунтоў.

Калі-б нават тая, што застаецца, часьць уласьнікаў зямлі, якая прадстаўляла-б значную большасьць у сэнсе колькасьці галасоў, і ў сэнсе абшару зямлі, якімі ўладае, выказалася проці комасацыі, дык заявы гэтых 25 гэктараў ($44^{1}/_{2}$ маргі) даволі, каб комасацыя адбылася прымусова.

Праціўнікі сцаленьня робяць няраз цэлы рад вартых кары дзеяньняў, напр.: не зьяўляюцца на абвешчаныя зямельным камісарам сходкі, ня хочуць выбраць комасацыйнай рады, не даюць работнікаў і інш., будучы перакананымі, што падобныя адносіны зробяць немагчымым фактычнае выпаўненьне комасацыйных працаў на зямлі.

Тымчасам гэта ня так. Незьяўленьне на сходку ўласьнікаў зямлі ні ў чым ня вяжа камісара. У выпадку нявыбараў рады, камісар назначае яе сваею ўладаю з першых лепшых зацікаўленых грамадзян, калі комасацыйная рада процістаўляецца выпаўненьню работ, дык па прапазыцыі каморніка (землямера), падтрыманай зямельным камісарам, распушчаецца рада і назначаецца новая ўрадова.

Калі ўчасьнікі не дадуць работнікаў, фурманак і інш. прадбачаных законам падмогаў, дастаўляе іх на кошт тых, хто ўхіляецца, а павятовая зямельная установа па прапазыцыі тае-ж самае рады, або каморніка, які вядзе працу над сцаленьнем, загадвае цераз пасрэдніцтва валасных установаў зысканьне зрасходаваных сумаў.

І комасацыя пачынаецца. Да рады, ў выпадку назначэньня яе ўрадова, часта ўваходзяць людзі, на якіх вёска глядзіць блага і якія ня маюць да сябе ніякае веры, а тут якраз роля іхняя нязьмерна важная, бо гэта-ж яны устанаўляюць прынцып падзелу супольнае зямлі або карыстаньне ёю, азначаюць абшар яе, вызначаны на мэты мясцовага агульнага ўжытку, робяць выбары сяброў ацэначнай камісіі, ад дзейнасьці якое залежыць цэлы проект новых каленіяў, пры якіх нячэсная і сумысьля несправядлівая ацэнка крыўдзіць учасьнікаў сцаленьня, замяшчаюць грамаду учасьнікаў сцаленьня перад установамі і судамі, робяць умову з каморнікам для тэхнічнага правядзеньня работ або падаюць заяву ў O. U. Z. аб назначэньні ім каморніка, маюць права на заключаньне умоваў аб правядзеньні мэліорацыі, рашаюць усе адмістрацыйна-гаспадарчыя справы, а таксама заключаюць умовы аб замене зямлі з мэтаю выпрастаньня межаў.

Усе гэтыя ўмовы і зробленыя ў іх абавязаньні датычаць усіх учасьнікаў сцаляньня і, пасудзеце самі, колькі могуць нарабіць усім крыўды нячэсныя або з злою воляю сябры рады.

Дык дзеля гэтага ўсякая ўпартасьць ці процідзеяньне ня толькі ня мае ніякага практычнага значэньня для тых, хто ня хоча, а наадварот — толькі цягне за сабою пэўную маруднасьць, падвышаючы кошт працаў.

І калі хто-нібудзь з вашае вёскі заявіць у Павятовую Зямельную Установу (P.U.Z.) жаданьне сцаленьня сваіх грунтоў, дык шмат лепей зьявіцца на сходку, ладжаную зямельным камісарам, выслухаць паясьненьні, якія ён абавязаны вам даць, і выбраць у комасацыйную раду найлепшых сваіх людзей пісьменных, энэргічных, добрых гаспадароў, а перш за ўсё людзей, вядомых сваею чэснасьцяй.

Калі хочаце мець добра сцэленыя грунты і адтрымаць жыцьцёвыя калёніі, дык не марнуйце свае энэргіі, розуму і грошай на процідзеяньне сцаляньню, а наадварот—прылажэце ўсе стараньні, каб работа была выпаўнена якнайлепей і памятуйце, што ў часе адбываньня перарваць сцаленьня нельга.

Хаця артыкул 39 закону і прадбачыць, што акружная зямельная камісія можа спыніць сцаленьне якое адбываецца, ў рэзультаце пастановы $^{3}/_{4}$ ліку учасьнікаў сцаляньня, калі гаспадарчыя меркаваньні гэта пазваляюць, аде-ж усе кошты, выкліканыя сцаленьнем, кладуцца ў гэткім выпадку толькі на тых, хто нездаволены. Праз гэта артыкул гэты блізка што й ня мае практычнага значэньня, бо альбо ня ўдасца сабраць $^{3}/_{4}$, альбо акружная камісія адкіне грамадзкую заяву, калі толькі гаспадарчыя меркаваньні пазваляюць рабіць комасацыю.

## Ці нам трэба зямлі болей, ці дабрабыту.

Зямельныя рэформы, што йдуць да ўпоўназямеленьня малых гаспадарак, зьяўляюцца неабходнымі ў шмат якім сэнсе. Іх правялі розныя дзяржавы нават і ў часе вайны, з тэй толькі, праўда, розьніцай, што

адны, як Англія, правялі так, што павялічылі прадукцыю краю і яго багацьце, іншыя зноў, як Літва, скажам, або бальшавіцкая Расея, толькі пагоршылі ёю гаспадарчае палажэньне і давялі край да занападу.

У Польшчы прынятая Соймам зямельная рэформа не зьяўляецца прадуманай так, каб яе можна было правясьці хутка і з карысьцяй.

У Польшчы, абмінаючы спрацыўленьне ці гоман, падняты некаторымі групамі, для якіх зямельная рэформа зрабілася „ліхім словам", паўсталі з аднаго боку, па прычыне фінансавых труднасьцяў, страхі правядзеньня чагосьці прынцыпіяльнага ў гэтай галіне, з другога—празьмерныя, разбуджаныя агітатарамі, жаданьні зямлі ў сялянскае клясы, зрабілі з гэтага пытаньня дзяржаўнай важнасьці,—якое ня гледзячы на тое, ці яно камусьці выгаднае, ці не, — мусіць быць жалезнаю воляю ўраду праведзена, — тэму для агітацыі або таксама і зьмест шмат якіх партыйных праграмаў.

Усё гэта разам вытварае спэцыяльны настрой моральнага занападу вёскі, што чакае спаўненьня абяцанак і нічога не пачынае. Ўсе на вёсцы нечага чакаюць, марнуюць гэткім чынам месяцы, калі не гады, думаючы, што прыйдзе нешта такое, што само паправіць нячувана цяжкое палажэньне і што зямельная рэформа якраз і ёсьць гэтым нечым.

А папраўдзе ёсьць іначай, бо мы павінны самі добра зразумець, што сяньня нават і найбольшыя земляўласьнікі могуць сяк-так зводзіць канцы з канцамі, а іхнія даходы плывуць не з таго, што дае зямля, а з паменшаньня свае ўласнасьці.

І тут мы павінны паставіць сабе пытаньне: „Чаго, уласна кажучы, трэба сялянам? Зямлі?" Адказ будзе: У запраўднасьці ім трэба большых даходаў на пакрыцьцё штораз то большых, растучых патрэбаў, якія зьўляюцца доказам іхняга культурнага росту, або імкненьня іхняга да лепшага, паўнейшага жыцьця. Зямлі яны хочуць, толькі з мэтаю дасягненьня гэтых большых даходаў. Павялічэньне зямлі было-б для іх бязумоўна толькі тады неабходным, калі-б яны ня мелі аніякага іншага спосабу павялічэньня сваіх даходаў, апрача гэтага аднаго. Гэтак вось пытаньне гэтае ў прынцыпе разумеюць тыя, што разглядаюць зямельную рэформу, як дзяржаўнае пытаньне, а не як пытаньне выбару іх у паслы. Дзяржава павінна ўрэгуляваць упоўназямеленьне гаспадарак, павінна ўнікнуць у тое, каб структура выраблянае зямлі была правільнаю. Але для дасягненьня пабольшаньня даходаў ня трэба павялічэньня абшару зямлі над норму, патрэбную для самавыстарчальнае гаспадаркі, дзеля таго, што гэтага таксама добра можна дасягнуць і лепшым гаспадараваньнем на тэй зямлі, якая ёсьць у ўладаньні. Больш, як павялічэньня колькасьці зямлі, сялянам трэба лепшае ўмеласьці яе вырабу, або прафэсіянальнае зямляробскае асьветы.

Калі-б наш вясковец пастараўся сабраць сваю зямлю ў адзін кавалак шляхам замену або каб скомасаваў, калі-б здрэнажаваў яе, або ўрэгуляваў у ёй вільгаць, калі-б выраўняў яе, дадаў маргелю, ці вапны або торпы, калі гэтага трэба, калі-б вырабіў і ўладзіў ляльку, купляў штогоду патрэбную колькасьць адпаведных гнаёў, калі-б глыбей араў, вёў рахункі, адным словам рабіў шмат рэчаў, якія робяць сяляне ў Чэхіі, Нямеччыне, Даніі, — дык зараз-жа перакanaўся-б, што ён багацейшы.

У кірунку падняцьця роўня зямляробства перш за ўсё павінна разьвівацца падмога дзяржавы.

Нашыя соймікі на асьвету і зямельную падмогу павінны прызначыць магчыма якнайболей. Зямельны Банк павінен адчыніць якнайшырэйшы крэдыт.

Комасацыя зямлі або сцаляньне грунтоў павінна адбывацца плянова, а падмога дзяржавы павінна мець на ўвазе неабходнасьць упоўназямеленьня сялян. Упоўназямеленьне іх пры сцаляньні — вось зямельная рэформа, якая павінна мець на мэце перш за ўсё стварэньне добрых гаспадарак.

Сьвядомы наш вясковец павінен зразумець, што ён зямлі грызьці ня будзе, як яе дадуць яму, ды і не прадасьць яе, бо тады, як яе будуць дарма даваць, ніхто яе й ня купіць.

Калі хоча адтрымаць зямлі болей, дык няхай дасьць аснову для таго, каб яе адтрымаць, хай вубыцца гаспадарыць лепей, хай падрыхтуецца да гаспадараньня на большым кавалку,бо як будзе мець гэты большы кавалак, дык пры падатках, якія зьяўляюцца такі-ж неабходнымі дзеля утрыманьня дзяржажавы, пойдзе з торбаю жабраваць, гаспадарачы блага.

Дзяржава пры комасацыі, гэта значыць сцаляньні грунтоў, безварункова будзе яму палягчаць павялічэньне яго кавалка да нормы, патрэбнай для правільнае гаспадаркі.

Гэты шлях павялічэньня даходаў сялянства цераз павялічэньне яго дасюлешніх гаспадарак зьяўляецца карысным як для іх, так і для ўсяго грамадзянства. Ён цяжкаваты, бо вядзе ўгару да штораз то большае спраўнасьці і дасканальнасьці.

Мы вельмі былі-б рады, каб кожны меў зямлі шмат, але разумеем і хочам, каб гэта зразумелі ўсе, што жаданьне аднае толькі зямлі бяз працы ў кірунку павялічэньня дабрабыту — гэта вядзеньне сябе і ўсяго краю да гаспадарчай галіты, гэта — хвароба, якую трэба лячыць.

Трэба пачаць лячыць гэтую хваробу мазольнаю працаю, якое не замесьцяць нічые абяцанкі, і якая адна-адзіная здолее падняць дабрабыт.

У працы гэтай, працы над зямлёю, над папраўкаю гаспадаркі ўмелым гаспадараньнем і ўпоўназямеленьнем ня можа не хапаць нікога, апрача дармаедаў і себялюбаў.

У гэтай працы трэба старацца дзяржаўнае падмогі і гаварыць аб ёй.

Нельга сядзець, як нажывыя, а брацца да працы рухліва; нельга не рабіць сабе пляну працы, а толькі вечна чакаць і вечна рабіць ілюзіі, быццам знайдуцца дабрадзеі, што чужое, гатовае дадуць нам у рукі.

# Гаспадарчыя парады.

## Адказы на пытаньні.

### Гліняныя будынкі.

Пытаньне: Ня маючы магчымасьці паставіць хату з дзерава, якое цяпер надта падаражэла, шукаю адпаведных матар'ялаў. Адзін з гэткіх матар'ялаў, а ласьне гліна знаходзіцца ў суседстве з маім надзелам, а дзеля таго, што ў нашай ваколіцы гліна на будову ня ўжываецца з прычыны адсутнасьці спэцыялістых па гэтага роду будовах, гэтым прашу ласкава назваць працы, якія гавораць аб даным прадмеце, і паінфармаваць у гэткіх пытаньнях:

а) ці практычным будзе дом для жыцьця з гліны?

б) на які пэрыяд часу аблічаецца гліняная будова?

в) якое глыбіні патрэбны фундамэнты?

г) таўшчыня сьценаў пры расшырэньні 10×7×3 мэтр.?

д) якая дамешка патрэбна да гліны (салома, верас, сухое гальлё, ці нешта іншае)?

е) як ставіць будынак, ці ўбіваньнем сьценаў у рухомыя формы, на ўсім прасторы, ці пажадана з вырабляных спэцыяльных цэглаў (саману) укладаньне мурусьцяны?

ж) у якім пэрыядзе часу сьцены павінны высушыцца, каб можна была залажыць бэлькі і стрэху бяз страху за цэласьць будынку, а таксама і пасяліцца ў ім бяз шкоды для здароўя?

Пры гэтым было-б пажаданым паказаньне крыніцы, скуль узяць пляны і рысункі, як хатаў, так і гаспадарчых будынкаў.

Адказ: а) Хаты з гліны зьяўляюцца вельмі практычнымі, але толькі ў адпаведным клімаце датарноўваюцца ў шырокім маштабе ў сухіх ваколіцах, г. знач. на Падольлі, Украіне, часьцёва на Валыні. Тымчасам ужо ў Палесьсі робленыя спробы далі настолькі нядобрыя рэзультаты вільгаці, што будынкі з гліны адкінены. У ваколіцы Баранавіч таксама яны ня будуць практычнымі і радзіць іх нельга.

б) у сухіх мясцовасьцях гліняныя будынкі ня ўступаюць у сэнсе стойкасьці дзеравянным; вядомы прыклады трываньня па сто і болей гадоў такіх будынкаў, якія былі зроблены з гліны.

в) глыбіня фундамэнтаў,—як і пры кожным іншым будынку,—залежыць ад вышыні сьценаў, а праўдзівей цяжару на 1 цм. 2 у аснове, а таксама цьвёрдасьці грунту. Нармальна пры будаваньні хаты без паверхаў робяцца фундамэнты ў 50 — 70 цм., пры гэтым яны павінны ня менш, як на 70 цм. выходзіць з зямлі. Гэта важная рэч з пагляду на зімовыя сьнягі і забясьпечаньне сьценаў ад вільгаці. Сьцяну трэба будаваць на ізоляцыйным слаі, які забясьпечвае яе ад падходу вільгаці з зямлі. Для ізоляцыі найлепш ужываць звычайны толь, якім крыюць стрэхі; 2) таўшчыня вонкавых сьценаў павінна быць каля 70—75 цэнтымэтраў. Унутраныя сьцены, паколькі яны ня маюць на сабе цяжару,—могуць быць зусім тонкія і лепш зрабіць іх з гліняных цэглаў;

д) як дамешку да гліны можна ўжываць, як хто хоча, адзін з названых матар'ялаў: трэба выбраць найтаньнейшы;

е) будаваньне сьценаў з сырых (нявыпаленых) цэглаў мае тую вышэйшасьць, што без параўнаньня хутчэй яны сохнуць (высахнуць павінна толькі гліна, ўжытая на заправу, а цэглы ўжываюцца ўжо высушаныя),—але і выраб патрэбнага ліку цэглаў цягне за сабою болей клопату і болей каштуе. Паколькі, ня гледзячы на пэўныя засьцярогі адносна будоваў з гліны ў паўночных ваяводзтвах,—Вы рашыліся-б на гэтую сыстэму, дык лепш было-б прыняць будову з сырых цэглаў, а ня гэт. званую „глінабітную", бо гэта апошняя дае гарантыю добрае высушкі толькі ў часе доўгага і сухога лета;

ж) будаваць трэба раней, бо ў часе мокрага лета высыханьне ідзе вельмі марудна; у кожным выпадку закладаць бэлькі можна пасьля пары тыдняў. Канцы бэлек, што датыкаюцца да сьценаў з сырое гліны, трэба абавязкова забясьпечыць толем, дбаючы аб акуратным засланеньні.

Пасяліцца можна аканчальна на зіму, калі ўнутраны тынк зроблены загадзя так, што сьцены будуць перад зімою зусім сухія. Лепей будзе ўвясьціся ў гэткі будынак летам чароднага году.

Найбольшаю нявыгодай гліняных будынкаў лічыцца труднасьць іх абтынкаваньня. А ўпарадкаваньне сьценаў унутры зьяўляецца неабходным для чыстаты і здароўя, а знадворку для забясьпечаньня іх ад атмосфэрычных уплываў. Вапняная заправа нядобра трымаецца гліняных сьценаў. Дзеля гэтага ў яшчэ мокрую гліну набіваюцца кавалкі паленае цэглы, а калі няма іх, дык кароткія дзеравянныя калочкі. Каб гэткія сьцены забясьпечыць ад „забіваньня" дажджом, даюцца вельмі шырокія капяжы.

Гатовых пляваў будынкаў для дробных гаспадарак ёсьць яшчэ няшмат. Іх робіць на заказ інструктарыят Цэнтральнага Саюзу Земляробскіх Гурткоў (Centralny Związek Kółek Rolniczych. Warszawa, Tamka 1.)

### Кашаль у цялят.

Пытаньне: Ужо з тыдзень некалькі цялят пачало кашляць, але апэтыт маюць добры. Найболей кашляюць увечары. Прашу парадзіць лякарства.

Адказ: Ад цялячага кашлю радзім спрабаваць гэткае хатняе лякарства: узяць малую лыжачку залатое серкі і зьмяшаць з 30-ма лыжачкамі дробнага цукру; 1 лыжачку гэтай мешаніны ўсыпаць у кварту салодкага цёплага малака, распусьціць і даць цяляці два разы на дзень.

Пасьля якіх двух дзён, калі кашаль ня зьменшыцца, даваць у працягу 2—3 дзён па 1 лыжачцы іпэкакуановага парашку ў кварце малака. А калі кашаль і пасьля гэтага ня зьменшыцца, дык паклікаць доктара, каб рашыў, ці ня маюць яны сухотаў і ці можна іх ужываць на мяса.

### Месячная сьлепата.

Пытаньне: Ужо некалькі гадоў у купленай кабылы часта распухаюць залозы і ў вачох зьяўляецца гной, тады кабыла губляе пагляд і апэтыт, пасьля 6 дзён усё зьнікае і яна здаровая. Што тут рабіць?

Адказ: З апісанага відаць, што кабыла хварэе гэтак званаю месячнаю сьлепатою, якая зьяўляецца невылячальнаю хваробаю, паказваецца праз кожных 5—6 тыдняў усё з большай сілай і ў канцы вядзе да сьлепаты.

### Хвароба каня.

Пытаньне: Маю каня 14 гадоў, які дастаў на жывот некалькі залозаў; конь гэты ўвесь час трэпле нагамі. Прашу рады.

Адказ: Зьяўленьне апісаных высыпак, або залозкаў, за чым ідзе абціраньне ног і неспакой каня, паказвае на скурную хваробу, праўдападобна пачатак каросты. Трэба памясьціць каня зусім асобна, гной з-пад яго выкінуць на поле, гэтыя высыпкі, залозкі, ўвесь жывот, зад і ногі на-нач добра намыліць, пену пакінуць да раніцы; усё добра апаласкаць чыстаю летняю вадою, абсушыць і раз на дзень у працягу трох дзён шмараваць усе гэтыя месцы мешанінаю льнянага алею з карболкаю. Мешаніна робіцца гэтак: на літр цёплага алёю ўзяць 35 грамаў чыстага жыдкага карболавага квасу і добра зьмяшаць. Уціраць некалькі мінут шчотачкай; лякарства павінна быць цёплае.

### Салетраваньне жыта.

Пытаньне: Ці варта салетраваць жыта і калі гэта трэба зрабіць? Жыта ўсеяае ў лубін і сарадэлю паміж 20 і 30 красавіка — слаба разьвітае і рэдкае, ня гледзячы на тое, што высеяна на морг 3 чэцьверці. Грунт пясчаны і лёгкі.

Адказ: Салетраваньне жыта заўсёды аплаціцца, калі жыта настолькі ня зьнішчана шкоднікамі, марозам і г. д., каб яго трэ' было перагорваць. Салетруйма жыта вясною, калі дзеля якіх-нібудзь прычын слаба выглядае пасьля перазімаваньня, каб пабудзіць да інтэнсыўнейшага разьвіцьця. Хопіць 50—80 кілегр. салетры на 1 га. Цікава, чаму Вашае жыта рэдкае і слаба разьвітае? Магчыма, што Вы зараз-жа па прыгараньні лубіну высеялі жыта ў неадляжалую зямлю, або які-нібудзь шкоднік зьнішчыў засевы. Падайце нам болей падробнасьцяў аб гэтым жыце. Можа ўжо ўвосень было слаба разьвітае ў рэзультаце спозьненае сяўбы, бо з сяўбою жыта трэба сьпяшацца, бо яно разрастаецца ўвосень.

### Як палепшыць ураджайнасьць фруктовых дрэваў.

Прыгожа глядзець, як у гаспадара каля хаты красуецца садок. А скольки гаспадар адчуваець радасьці, калі ўвосень яго сад поўны яблыкаў і грушаў. Пэўна-ж досыць пацехі. Але, нажаль, шмат якія гаспадары няўмела даглядаюць свае сады, дык гэтая пацеха ня кожнаму дае сябе адчуваць. Ёсьць здарэньні, што тая, ці іншая яблыня ці груша зусім не дае пладоў, а гэная зусім мала і нават увесь садок як-бы марнее.

Чаму-ж гэта так?

А таму, што ў каго гэта здараецца, той няўмела даглядае, або зусім не даглядае свой сад.

Дык, як-жа трэба даглядаць яго, каб палепшыць ураджайнасьць фруктовых дрэваў?

Трэба перш за ўсё ведаць, што садок у гаспадарцы ёсьць даходная стацьця, а таксама многа прыносіць пацехі гаспадару, калі ў ім шмат вырасьце яблыкаў.

Дык трэба заахвоціць сябе да працы, якая заўсёды вясной у садку знайдзецца. Праца вось якая: 1) абскабліць з дрэваў мох і сухую кару, 2) абрэзаць сухое, а дзе трэба і сырое, гальлё, 3) пабяліць сьцёблы дрэваў вапнай, зьмешанай з каровім жыдкім гноем і 4) як зямля адагрэецца, дык абматыкаваць яблыкі і грушы, каб круг быў каля дрэва 3 арш. ў дыямэтры. Гэта робіцца дзеля таго, каб ня даць ходу траве, бо практыка даказала, што кожны пуд сена, выгадаванага пад садам, дае убытку на ўраджайнасьці фруктаў да 3-х руб.

Падругому, трэба добра ведаць назаўсёды, каб былі на дрэвах стаўкі для шпакоў; гэтыя птушкі неабходна мусяць разводзіцца дзеля гэткай карысьці; як зьяданьне ўсялякіх ворагаў садоў (жучкоў, гусеніц), каторыя нападаюць на фруктовыя дрэвы і аб'ядаюць іх, а найчасьцей у сухое лета. Апрача таго, зусім ня трэба дарагіх гідрапультаў для апрысквання дрэваў і ня трэба марнаваць часу на гэта, а карысьць будзе нязгоршая.

Дык, каб палепшыць ураджайнасьць свайго садку, зараз-жа трэба ўзяцца за працу.

*Іван Тарыкоў.*

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### Усяго трэба вучыцца.

(Пераклад з польскага).

Ведама, што дзіця ходзіць у школу, каб навучыцца чытаць, пісаць і лічыць. Старшыя дзеці вучацца рамёслаў, рыхтуюцца да будучых абавязкаў у выбранай прафэсіі. Маем школы землярбоскія, гандлёвыя, прамысловыя, маем вышэйшыя школы, якія вучаць будучых лекароў, адвакатаў або інжынераў.

Аднак-жа, ня ведаю, ці вы далі-б мне адказ, каб я спытаўся, дзе маці мае навучыцца, як гадаваць сваё дзіця?

Напэўна вы спыталіся-б: а ці гэтага трэба вучыцца? Бо-ж заўсёды знайдзецца старэйшая, дасьведчаная жанчына, каторая пакажа маладой маці, як яна мае з дзіцём абходзіцца. (Ахвочых радзіць звычайна заўсёды ёсьць шмат, аж занадта шмат!).

Якім-жа, аднак, чынам набываюць гэтага „дасьведчаньня“ тыя старэйшыя жанчыны—яны самі звычайна хваляцца, што ўжо не адно дзіця пахавалі! Гэта праўда! у нас у Польшчы памірае на вёсках у

тры і чатыры разы болей дзяцей, як у іншых краёх, і гэта таму якраз, што **мы ня ўмеем** абходзіцца з дзіцём у тым часе, калі яно патрабуе найболей нашае апекі: зараз-жа пасьля нараджэньня і ў першым годзе жыцьця.

Гадаваць дзіця трэба вучыцца так сама, як агароднік вучыцца гадаваць дрэвы, расьліны або краскі: хто каля іх хадзіць ня ўмее, той не зьбярэ пладоў або выгадуе карлікавыя творы.

Жанчына, якая хоча сваё дзіця *вы*хаваць, а не *па*хаваць, павінна навучыцца хадзіць каля яго!

Як гэта мае зрабіць? Можа дый павінна ёй памагчы ў гэтым школа, ладзячы для старэйшых дзяўчат адпаведныя гутаркі аб гадаваньні дзяцей; у школах вясковай гаспадаркі для жанчын, дзе вучаць гадоўлі птушак ці цялят, нельга таксама абмінаць і таго, як гадаваць дзеці. У гуртках і таварыствах, дзе робяцца цікавыя лекцыі, жанчыны павінны дапамінацца аб справаджаньні гэткіх людзей, якія маглі-б ім сказаць аб гадаваньні дзіцяці.

У местах існуюць ужо і ў нас парадні для мацярок, дзе лекары замест рацэпту на хваробу даюць мацяркам рады, як ухіліцца ад хваробы добрым гадаваньнем дзіцяці. Па вёсках, дзе няма лекароў, гэткія рады магла-б даваць вышкаленая ў гадаваньні дзяцей апякунка здароўя.

Але пакуль усе гэтыя спосабы будуць праведзены ў жыцьцё, пакуль прывыкнеце шукаць радаў у добрых кнігах, горача жадаем, каб вы мелі карысьць з гэтага **кутка для мацярок**, які ў гэтай вашай газэце ствараем; пастараемся ў кожным нумары даваць вам на гэтым месцы кароткія рады, як абходзіцца з дзіцём: як яго карміць, купаць, насіць, апранаць,— як ухіліцца ад хваробы і выхаваць на здаровага і дужага чалавека.

(„Kultura").

## Да чытачоў і корэспондэнтаў „Беларускага Дня".

Абвестка аб арганізацыі сеткі корэспондэнтаў, знайшла водгук у нашых чытачоў. Рэдакцыя наша адтрымала і адтрымоўвае шмат працазыцыяў і пробных корэспондэнцыяў, з каторых нажаль невялікую частку толькі памяшчаем у „Б. Д.", дзеля таго, што аўторы іх, ня гледзячы на нашу просьбу, зусім ясна выказаную ў абвяшчэньні Рэдакцыі, падпісваюць свае творы альбо псэўдонімам, альбо, падпісваючы сваё запраўднае прозьвішча, не падаюць свайго адрэсу.

Гэта адно. Другая прычына—гэта тое, што ў корэспондэнцыі часта апісваюць факты, не падаючы ясна ні месца, дзе яны здарыліся, ні прозьвішча людзей, у іх замешаных. Вось, напрыклад, адзін з нашых корэспондэнтаў піша нам, што на аднэй з поштаў, калі ён зьвярнуўся да паштовага вурадніка і папрасіў яго, каб даў яму паштовы пераказ, вураднік, зьдзекуючыся над беларускай мовай, заявіў, што пераказаў ніякіх няма, а калі яму трэба пераслаць грошы, дык ёсьць „переводы" або „przekazy", адным словам, змушаў беларуса гаварыць парасейску альбо папольску. Корэспондэнцыі гэтай мы не маглі памясьціць—дзеля таго, што ня быў напісаны ні назоў пошты, ні дата (дзень), калі гэта мела месца, ні прозьвішча альбо становішча гэтага вурадніка. Выяўленьне ўсіх гэтых, на першы пагляд, дробных рэчаў запраўды мае вялізарнае значэньне. Бо калі гэтае здарэньне мела месца ў межах, дзе абавязуе закон аб мове нацыянальных меншасьцяў, дык, знача, чыноўнік такі павінен быць пакараны за невыпаўненьне закону.

Маючы далей назоў пошты альбо прозьвішча, ці становішча вурадніка, Рэдакцыя мела-б поўную магчымасьць выступіць у абарону пакрыўджанага, дамагаючыся пакараньня вінаватага, чаго цяпер зрабіць не магла.

Гэтак сама і ў шмат якіх іншых выпадках. Дзеля гэтага, першае вымаганьне, якое ставім сваім корэспондэнтам, гэта тое, каб падавалі нам толькі праўдзівыя факты, без якіх-небудзь выдумак і прыкрасаў, і бязумоўна пісалі сваё імя, прозьвішча і адрэс, а таксама псэўдонім, якім хацелі-б, каб корэспондэнцыя была падпісана ў друку. Ад'значаем, што імя і прозьвішча корэспондэнта, калі ён корэспондэнцыю сваю просіць у друку падпісаць псэўдонімам, Рэдакцыя нікому ня выдасьць. Другое вымаганьне: каб, апісваючы розныя здарэньні, а асабліва аб сваіх крыўдах, падавалі больш фактычнага матар'ялу, пішучы па магчымасьці імя і прозьвішча людзей, аб якіх у корэспондэнцыі ідзе гутарка, а таксама і месца іх жыхарства.

Калі ёсьць якія-небудзь дакумэнты, пацьвярджаючыя гэтыя факты, бязумоўна трэба аб іх успамянуць, а ў важнейшых выпадках прысланць у Рэдакцыю іх копіі. Калі дзеля якіх-небудзь прычынаў, не захочаце, каб імя і прозьвішча розных асобаў было надрукована, то павінны напісаць аб гэным у корэспондэнцыі, тады бязумоўна Рэдакцыя іх друкаваць ня будзе, але для ведама Рэдакцыі яны павінны быць у корэспондэнцыі напісаны.

Далей, з значнага ліку пісьмаў, якія штораз, то болей наплываюць у нашую Рэдакцыю, мы ўбачылі, што ня ўсе чытачы нашыя добра разумеюць, чаго вымагае Рэдакцыя ад сваіх корэспондэнтаў, і што хацела-б знайсьці у іх пісульках.

Адказ на гэта вельмі просты.

Рэдакцыя хацела-б ведаць, чым жыве, як жыве наша беларуская вёска, што яна думае, якія мае надзеі, ведаць гора, балячкі і радасьці кожнага кутка нашае бацькаўшчыны, ведаць, што шкодзіць і што памагае жыцьцю нашага селяніна, нашага інтэлігэнта, хоча пісулькамі гэтымі моцна зьвязацца з іх жыцьцём, хоча мець у корэспондэнцыях адбітак гэнага жыцьця, каб у патрэбную хвіліну прыйсьці да беларускага селяніна, да беларускага інтэлігэнта з словам парады, альбо голасна, на ўвесь сьвет заявіць аб іх крыўдах і змагацца за іх лепшую долю.

З таго, што мы сказалі, ясна, што кожны, хто ўмее ў пісьме выказаць свае думкі, можа быць нашым корэспондэнтам. Няма чаго сароміцца і пужацца, што гэтая думка будзе выказана ня зусім гладка. Абы толькі было напісана гэтак, што зразумець яе можна, а там ужо Рэдакцыя сама патрапіць адшліфаваць яе. Іншыя з нашых чытачоў кажуць нам, што хацелі-б быць нашымі корэспондэнтамі, але ня ведаюць, што нас больш цікавіць і пытаюць аб чым пісаць.

Вышэй мы ўжо адказалі на гэнае пытаньне. Аднак, каб адказ наш быў усім зразумелы, паўтараем: цікавіць нас кожная праява беларускага жыцьця ў галіне культурна-прасьветнай, сельска-гаспадарчай, коопэрацыйнай і палітычнай. У сучасны момэнт, паміж іншымі, для нас было-б цікаўна адтрымаць адказы на гэткія пытаньні:

1) Ці далёка ад вёскі знаходзіцца школа і якая яна: польская ці беларуская і ці добра ў ёй вядзецца навука?

2) Ці хочуць гаспадары беларускае школы і калі хочуць, то ці парупіліся аб тым, каб дабіцца яе, што ў гэтым напрамку зрабілі?

3) Ці вядзецца ў вас якая-небудзь культурна-прасьветная праца і калі вядзецца то кім і ў якім напрамку? Ці ёсьць чытальня, бібліятэка і г. д.

4) Ці ёсьць імкненьне ў гаспадароў перайсьці на калёніі

(хутары) і калі ёсьць, дык што зрабілі, каб дабіцца гэтага пераходу?

5) Ці няма блізка вёскі перайшоўшай на калёніі і як там жывецца гаспадаром?

6) Што цікавіць вёску ў галіне, сельскай гаспадаркі, ці ёсьць імкненьне да палепшаньня яе і што стаіць гэнаму імкненьню наперашкодзе?

7) Ці ёсьць у вас якія-небудзь сельска-гаспадарскія гурткі, як вядзецца ў іх праца, на якой мове дзелаводзтва, ці шмат сялян належыць да гэтых арганізацыяў?

8) Ці ёсьць у вас коопэрацыйныя банчкі, касы, малачарні, спажывецкія коопэратывы і як вядзецца ў іх праца?

9) Як працуюць вашыя самаўрады (сэймікі)?

10) Якія адносіны сялянства да мясцовай адміністрацыі?

11) Якім палітычным партыям спачувае сялянства?

12) Якія ў вас чытаюць газэты?

Вось жменька тэмаў для тых, хто ня ведае, аб чым пісаць да нас.

# Палітычныя навіны.

## Польская пазыка ў Амэрыцы.

Польшча ў найбліжэйшым часе мае дастаць пазыку ў Амэрыцы ў разьмеры 70 міл. даляраў. Варункі пазыкі даволі выгодныя для Польшчы.

Палова пазыкі будзе ўжыта на разбудову і ажыўленьне промыслу. Усьлед за гэтай пазыкай проектуюцца другія.

## Кітайскія падзеі.

Паміж Кітаем і С. С. С. Р. маець дайсьці да зарваньня дыплёматычных адносін ў зьвязку з апошнімі падзеямі на Ўсходзе. Магчыма, што дайдзе да вайны Кітаю з С. С. С. Р.

Ў зьвязку з гэтым манджурскі дыктатар Чанг-Тсо-Лін сабраў 200.000 жаўнераў у Манджурыі. Чанг-Тсо-Ліну абяцала падмогу Японія. „United Press" даносіць, што над манджурскай граніцай, галоўна ў Чыце і Хабараўску, савецкія ўлады сабралі шмат пяхоты і кавалерыі, у тым ліку шмат войска з Эўропэйскай Расеі. Палітычныя кругі Японіі лічаць вытвараную сытуацыю вельмі паважнаю.

Пры рэвізіі, якая зроблена па прыказу Чанг-Тсо-Ліна ў савецкім пасольстве ў Пэкіне, знойдзены пэўныя доказы таго, што савецкі ўрад памагаў кітайскім рэвалюцыянэрам і стараўся давясьці да перавароту ў паўночным Кітаі дый завясьці там бальшавіцкі дзяржаўны лад.

# Аб усім патроху.

## З Марсэлю ў Парыж... пад пасьпешным цягнікам.

Нядаўна ў Парыжы выклікаў вялікую сэнсацыю прыход на ліонскі вакзал пасьпешнага цягніка з Марсэлю. Кандуктар звочыў пад вагонам 1-е клясы хлопчыка, які сядзеў на восі вагону, моцна за яе ўшчыперыўшыся. Хлопчык меў абдзёрты і абкіданы балотам твар, падраную вопратку і таксама моцна запэцканую.

— „Я Мігуэль Католя,—адказаў хлопчык,—маю 10 гадоў. Я—гішпанец. Мае бацькі ўчора на мяне зазлавалі, дык і годзі мне ўжо было жыць у Марсэлі. Я хацеў якнайхутчэй апынуцца ў Парыжы. І сеў сабе на цягнік так, як вы вось бачыце. Цяпер я надта галодны і хацеў-бы спаць"...

Вакзальны камісар накарміў хлапца і загадаў завясьці яго ў паліцэйскі камісарыят.

## У Амэрыцы ўжо можна бачыць таго, з кім гаворыце тэлефонам.

Гэтымі днямі ў Нью-Іорку ўдачна дэмонстравалі апарат, які дае магчымасьць бачыць на адлежвасьць. Пры тэлефонных размовах паміж местамі Нью-Іоркам і Вашынгтонам (сталіцаю Злучаных Штатаў) зьявіліся ў зацемненым пакоі жывыя абразы гаварыўшых асобаў, паміж іншым, статс-сэкрэтара для гандлю Гувэра.

## Цікавы гістарычны дакумэнт.

Жыдоўскі гісторык д-р Шэхтэр выпадкова адкрыў у Каіры (Эгіпэт) бязьмерна важны жыдоўска-хазарскі рукапіс аб вараскім князю Алегу (Оляфе), памёршым у 912 годзе і бычшым закладчыкам расейскае дзяржавы. Рукапіс гэты набыў ад Шэхтэра Кэмбрыдзкі унівэрсытэт.

## Цэны сельска-гаспадарчых прадуктаў у Вільні

*на 12-га Красавіка.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Жыта . . . . | 42 50—43 1/2 | зл. за 100 | кілёгр. |
| Авёс . . . . | 38.00—41.00 | „ „ | „ |
| Ячмень браваровы . . | 31.00—45.00 | „ „ | „ |
| Ячмень на муку . . | 36.00—40 00 | „ „ | „ |
| Пшаніца . . . | 50.00—52.00 | „ „ | „ |
| Жытнія атрубы . . | 31.00—32.50 | „ „ | „ |
| Бульба . . . . | 8.50—10.00 | „ „ | „ |
| Сарадэля . . . | 35.00—37.00 | „ „ | „ |
| Лубін . . . . | 30 00—34.00 | „ „ | „ |
| Канюшына белая . . | 3.60— 4.00 | „ „ | „ |
| Авёс на насеньне . . | 44.00—48.00 | „ „ | „ |
| Мука амэрыканская . | 1.10— 1.20 | „ 1 | кілёгр. |
| Мука жытняя 50% . | 60— 70 | „ „ | „ |
| Мука непрасеяная . . | 40— 45 | „ „ | „ |
| Мука бульбяная . . | 80— 90 | „ „ | „ |
| Мука грачаная . . | 60— 70 | „ „ | „ |
| Мука ячменная . . | 55— 60 | „ „ | „ |
| Пансак . . . . | 50— 60 | „ „ | „ |
| Крупы ячменныя . . | 70— 80 | „ „ | „ |
| Мяса валовае . . | 2.60— 2.70 | „ „ | „ |
| Цяляціна . . . | 1.10— 1.50 | „ „ | „ |

# Паштовая скрынка.

Міх. Завадзкаму ў Вялейцы. Вершы перадаены ў літэратурны аддзел, калі падыйдуць — замесьцім. Пішэце аб сваім кутку.

Шпаку Восаўскаму ў Радашкавічах. Прабуйце пісаць корэспондэнцыі. Вершы перадаены ў літэратурны аддзел. Напішэце выразна сваё прозьвішча.

К. Жыгала ў Наваградку. Чакаем корэспондэнцыі.

Я. Забельскаму ў Караблёх. Газэты высылаем. Купеце „Rolnik wzorowy", Вільня, Księgarnia Nauczycielstwa Polskiego.

Ўл. Яцкевіч у в. Малышох. Чакаем корэспондэнцыі.

Аркадзю Атрахімовічу. Падайце прозьвішча і адрэс паштовага вурадніка, які не прызнае беларускай мовы, адначасна падайце прозьвішча пана, каторы зрабіў такую ўмову, аб якой пішаце, можа маеце копію ўмовы? Апрача нашага сельска-гаспадарскага аддзелу пачала выходзіць „Саха", сельска-гаспадарскі месячнік, адрэс: Вільня вул. Сьв. Ганны 2.

З Радавай Беларусі часопісаў адтрымліваць ня можна.

Адрэс журналу „Natio": Warszawa, ul. Piękna 18 m. 6.

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Pogoń" Друк. „Рах", вул. Сьв. Ігната 5.